Год выдавецтва 1. ЦАНА НУМАРУ 30 гр

# ПРАВАСЛАЎНАЯ БЕЛАРУСЬ

ЦАРКОЎНА-ГРАМАДЗКІ і ПАЛІТЫЧНЫ, ДВУТЫДНЁВІК.

№ 2 | 15 кастрычніка. | 1927 г.

АДРЭС РЭДАКЦЫІ: Вільня, Людвісарская вул. № 1.

ПАДПІСНАЯ ЦАНА да канца года 1 зл. 50 гр.

## Якім шляхам?

Польскія палітычныя групы, працуючыя на нашых беларускіх абшарах і змагаючыяся папоўніць свае партыйныя рады беларускім элемэнтам, у сваей агітацыі стараюцца пераканаць нас у тым, што ў нашы часы пытаньні клясовыя, соцыяльныя важней пытаньняў нацыянальных. Беларускаму народу, гавораць яны, важней дабівацца агульных для усіх народнасьцяў інтэрэсаў селянскага і работніцкага люду. Дабіваючыся гэтага, ён ня будзе скрыўджаны і ў сваіх нацыянальных патрэбах, бо левыя а асабліва сацыялістычныя групы змагаюцца за сялянска-работніцкі дабрабыт без розніцы нацыянальнасьцяў.

Так гаворыцца, але не так робіцца. Гэта мы ўбачым, калі прагледзімся да нашага сучаснага жыцьця.

Ува ўсіх яшчэ ў памяці праца на нашых абшарах перад выбарамі ў Сойм (1922 г.) польскай партыі „Вызваленьня". Калі яна заклікала да сябе беларусоў, то абяцала ім залатыя горы, ня меншыя чым палякоw. Але-ж калі дайшло да справы ў сойме, у першаю чаргу яна галасавала за крэдыт у 50 мільёнаў на асадніцтва на беларускіх і украінскіх землях. Гэта знача, што за тыя грошы, якія складаюцца ў Польшчы паміж іншым і з нашых падаткаў, праводзіцца на нашых землях калёнізацыя, маючая сваей мэтай спалёнізаваньне беларускага і ўкраінскага народу. Беларусы, якія ў той

час па непаразуменьню апынуліся ў „Вызваленьні“, першыя пачуялі гэткую ўнутраньнюю няпраўду „Вызваленьня“, і некатарыя з іх выйшлі з гэтай партыі. Яны ўжо хацелі было тады ўвайсьці ў Беларускі клюб, але паляк Ваяводскі ўстрымаў гэтае іх імкненьне і пераканаў стварыць новую польскую партыю, назваўшы яе незалежнай хлопскай партыяй. Якім шчырым да беларусоў аказаўся п. Ваяводзкі, гэта ўсім вядома, бо, як паведамілі нам газэты і нават выясьнілася ў соймавым судзе, п. Ваяводскі нават у часы свайго пасольства ў сойме прадаўжаў служыць у польскай дэфэнзыве, адкуль атрымліваў за сваю працу грошы. У рэзультаце партыя „хлопская“ развалілася. Галавач аказаўся ў турме, а двое з беларусоў (Шакун і Шапель) нарэшце, пакаштаваўшы „чужога хлеба“, вярнуліся да роднай беларускай хаты.

Нашы чытачы напэўна яшчэ памятаюць недаўнюю працу на нашых „крэсах“ польскай соцыялістычнай партыі (P.P.S.). У некаторых паветах (напр. Баранавіцкім) яна пасьля маёвага перавароту мела вялізарны пасьпех. Але, пачакаўшы, выявіліся такія яе палітычныя крукі, высьветленыя, як вядома, у свой час з соймавай трыбуны пaслом Рагуляй, што P. P. S. адразу страціла ў гэтых мясцовасьцях сярод беларусоў свой крэдыт. У нашых самаўрадах так сама найбольш варожае спатканьне беларускія і наагул справы меньшасьцяў затрымліваюцца P. P. S-амі.

З усіх гэтых прыкладаў відаць, што ў Польшчы яшчэ не настаў час, калі пытаньне сацыяльнае можна было-б ставіць вышэй нацыянальнага. Гэта і зразумела. Польшча сама, перажыўшая нядаўна нацыяналістычны ўціск трох дзяржаваў, цяпер імкнецца ў найрыхлейшы час адваяваць назад свае нацыянальныя страты на наш і украінскі кошт.

Усё яе палітычнае жыцьцё, усе яе змаганьня, галоўным чынам скіравана на гэта. Дзеля гэтага мы жывем, можна сказаць, смажамся ў гэтакай нацыяналістычнай атмасфэры. Ясна што, жывучы ў гэтакіх варунках, мы толькі і можам процiўпаставіць гэтаму націску свае нальныя арганізацыі, свой нацыяцыянальны фронт.

Гэтым аднача мы не хочым сказаць таго, што пры нацыянальным фронце ня можа быць розных паглядаў і розных палітычных групаў. Гэта ня толькі магчыма, але і зусім натуральна. Няхай сабе ў гэтых розных партыях і напрамках палітычнага жыцьця выпрацовываюцца і выяўляюцца істотныя, галоўныя патрэбы і імкненьня беларускага народу, але і пры розьніцы палітычных праграмаў, павінен быць адзін нацыянальны фронт, павінна быць аб'еднаньне ўсіх палітычных сіл на аднэй нацыянальнай дарозе. Інакш мы будзем не ў сілах абараніць сваю нацыянальную справу. Наадварот, учасьце беларусоў у партыях польскіх нацыянальнасьцяў волей — няволей наложыць на іх нейкія свае аблічча і гэта разаб'е беларусоў нацыянальна.

Аб'еднаньне беларусоў у адзіны фронт тым больш лёгка, што народ беларускі на рэдкасьць адналіты ў сваім соцыяльным складзе, дзеля чаго ня можа быць (і так і ёсьць) вялікай розьніцы ў праграмах яго палітычных групаў. На жаль стварылася так, што гэтыя групы ў нас пасварыліся ня толькі ідэова, але

нават і асабіста ў асобах сваіх партыйных лідэроў і гэтыя сваркі зьяўляюцца для нашага палітычнага жыцьця найбольшай палітычнай нацыянальнай бядой.

Мы не бярэм на сябе права быць судзьдзямі таго, хто вінават больш у гэтым. Чытаты нашых газэт можа разбяруцца і самі. Але ня можам не адзначыць і той шкоды, якая творыцца ад гэтага для нашай нацыянальнай справы.

*В. Б.*

# Дагматычныя падставы саборнасьці у праваслаўнай царкве.

Цяпер ужо ніхто з праваслаўных, нават самыя гарачыя прыхільнікі цэзарапанізму, ня адкідаюць у ідэі прынцыпу саборнасьці ў царкоўным жыцьці. Але разумеюць яго па разнаму. Цэзарапапісты прызнаюць правамоцнымі Саборы, складаючыяся з епіскапаў, як прадстаўнікоў епархіяльных царквей. Свае погляды яны абасноўваюць на шэрагу кананаў, каторыя лічаць абавязкавым прысутнасьць на Саборах толькі епіскапаў.

Другая старана сьцьвярджае, што ў саборнай працы павінны прымаць чынны удзел духавенства нізшае, сьвяшчэннікі, дыяканы і міране, г. е. прадстаўнікі простага веруючага праваслаўнага народу, з правам рашаючага голасу па ўсім царкоўным пытаньням. І адны, і другія для падцьверджаньня сваіх мненьняў зсылаюцца на гістарычныя прыклады. Патрэбна сказаць, што адны і другія ў сваіх гістарычных зсылках да пэўнае меры справядлівы. Гісторыя ведае Саборы двух тыпаў: саборы з адных епіскапаў, як роўна і саборы, у каторых ураз з епіскапамі прыймалі чынны удзел клір і міране. Гістарычныя доказы абыдвух старон маюць аднолькавую логічную сілу і пераконаньня. Але, трэба заўсёды памятаць, што, як гаворыць вядомы расейскі прафесар Болатаў, „гісторыя— гэта толькі карысны архіў, а ня збор правоў“. (Епархіі у дрэўней Русі“ Царк. вед. 1906 г. № 3, стр. 100). Дзеля гэтага зсылкі на гістарычныя прыклады ня можна лічыць як апошнія доказы для вырашэньня гэтых пытаньняў.

Для правільнага вырашэньня з царкоўнага пункту гледжаньня пастаўленага пытаньня, патрэбна асьвяціць яго зусім з другога боку. Патрэбна даказываць ня тое, што недзе і некалі было, а тое, што і як павінна быць, г. ё. з гістарычнага пункту гледжаньня патрэбна пытаньне перанесьці на прынцыповы, дагматычны грунт. Тагды і ўсе гістарычныя прыклады атрымаюць павіннае асьветленьне. Гэткім прынцыповым пунктам гледжаньня, каторый выяўляе ўнутраны зьмест ідэі саборнасьці, ёсьць навука Спасіцеля аб царкве, як Апошнім Судзе, зьмешчаючаеся у 18 гл. 17—18 ст. ев. Матвея аб **аблічэньні** саграшыўшага брата. Аблічэньне гэта, паводле слоў Спасіцеля, спачатку павінна адбыцца патаемна, з вока на вока, калі-ж яно не дасягне сваей мэты, тагды трэба абліччыць пры дзьвёх, або трох сьведках. Калі-ж і гэта не дасягне сваей мэты, дык тагды суд патрэбна перадаць Царкве (калі не паслухае іх, скажы Царкве, калі-ж і Царкву не паслухае, то няхай ён будзе табе, як язычнік і мытар (Матв. 18, 17). Толькі Царква можа вынясьці аканчальны прысуд, абавязкавы для ўсіх яе членаў, бо толькі ёй аднэй, у сфэры царкоўных адносінаў належыць права суда ў поўным значэньні гэтага слова. І гэта выяўляецца з самае істоты царквы, як Божае ўстановы.

Царква, паводле праваслаўнае навукі, ёсьць пастаўленнае праз Бога вобчаства, аб'яднанае праваслаўнаю верай, Законам Божым, іерархіей і таінствамі. Іерархія ў Царкве, як відаць з гэтага

акрэсьленьня, ёсьць не владствуючы, а толькі адзін з элемэнтаў змацняючых. Паводле слова Божага, Царква—гэта жывы арганізм, гэта цела, часьціны катарага знаходзяцца у самай цеснай арганічнай сувязі паміж сабою і ўзаімадзеяльнасьці, так што калі церпіць адзін член, церпяць і ўсе члены, а калі славіцца адзін член, дык з ім радуюцца і ўсе члены. (1 Кор. 12,26). Патрэбна адзначыць і яшчэ адну асабліваськь, падкрэсьліваемую праз сьв. ап. Паўла ў адносінах членаў Царквы паміж сабою. „Члены цела,—гаворыць ён, каторыя выяўляюцца слабшымі, дужа патрэбныя (і bid. 11,22). І гэта зусім зразумела. Не чалавек для суботы, а субота для чалавека; не народ для іерархаў, а іерархі для народу. Значэньне іерархіі для Царквы Спасіцель акрасляе гэтак: „хто хоча паміж вамі (апосталамі) быць большым, няхай будзе усім слугой, а хто хоча быць паміж Вамі першым, няхай будзе ўсім рабом (Мф 20,25–27 М. 22,25, Мр 9,35, 10,42—43).

Праўдзівым жа гаспадаром Царкоўнага жыцьця зьяўляецца ўся Царква. Пасланьне усходніх патрыархаў, катораму у нас надаецца значэньне сымвалічнага акту, ў акрэсленьні сутнасьці Царквы, проста гаворыць, што „хранiцелям благочэсьція ёсьць цела Царквы, г. ё. самы народ. Калі храніцелям благачэсьція зьяўляецца сам народ, дык прынцыпова толькі яму належыць права стварэньня варункаў, у каторых ён меў бы магчымасьць выканаць сваю місыю „храніцеля благачэсьція".

Другая справа, як на практыцы гэта выканаць. У розныя часы гэта выконывалась рознымі спосабамі, але і ў гэтым выпадку у слове Божым ёсьць догматычныя нормы выкананьня гэтага права. Гэта Антыахійскі памесны і Апостальскі саборы, аб каторых павествуе св. Лукаш ў Дзеяніях Апостальскіх (14 26—28 15 1—25). У гэтых двух прыкладах сьв. Апосталы паказалі на практыцы, як патрэбна рабіць на выпадак паўстаньня ўнутры Царквы вострых канфліктаў. Гэта, як гавораць „наглядное" выкананьне догматычнага прынцыпу аб судзе Царквы. Дзеля гэтага павествованьня Евангелістаў аб гэтых саборах заслугуюць асаблівае ўвагі: безстаронны аналіз гэтых сабораў мае рэшаючае значэньне ў справе ўстрою царкоўнага жыцьця.

Антіахійскі і Іерусалімскі апостальскі саборы былі скліканы з аднае і тое жа прычыны, а таксама для вырашэньня пытаньня аб абавязковасьці для хрысьціян ветхазаветнага абраднага закону, а асабліва—аб закону аб абрэзаньні. Дзеяпісацель павествуе, што ў момэнт, калі ў Антыахіі мелі побыт апосталы Варнава і Павал, сюды прышлі неякіе з Іудзеі і пачалі вучыць: „калі не абрежацесь паводле закону Маісея, дык ня можаце спасьціся". З гэтае прычыны у Царкве вынікла спрэчка у Паўла і Варнавы з толькі што прышоўшымі вучыцялямі. Пасьля доўгага дыспуту, павествуе Дзеяпісацель, пастанавілі, каб Павал і Варнава і іншыя звараціліся ў гэнай справе да Апосталаў і прасьвітэраў у Іерусалім (15,2).

Калі ўчытацца у гэтае короткае эпічнае павествавачьне эвангеліста, дык перш ўсяго прыходзіць на думку, што у склад дэлегацыі, каторую адпраўлялі ў Ерусалім да Апосталаў, вайшлі не адні апосталы, але і „некіі другіе з іх" г. ё. прыхільнікі абрадавага Маісеевага закону. Гэтакай пастановы маглі дабівацца толькі супрэчная партыі і яе дамаганьне ўзяты пад ўвагу і задаволенна. З гэтага выходзіць, што і у дыспуце і ў пастановах яны прыймалі чынны удзел.

У гэтым перакаңавывае нас і характэрыстычны выраз „пастановілі" —(эгаксан).

Калі-б пастановы выхадзілі ад адных толькі апосталаў, дык паводле лагічнага вымаганьне грэцкае мовы, Дзеяпісацель павінен быў ужыць двайную лічбу. Множная лічба, ужытая для гэтага выразу, сьведчыць, што ў дыскусіі і ў пастановах прыймалі чынны удзел не два тольк з апосталаў, а ўсе прысутныя ў гэтай лічбе і староннікі абрадавага Закону Маісея.

Патрэбна мець на увазе, што ўсё гэта мела мейсца на зары хрысьціянства, калі толькі што прыняўшыя хрысьціянства аканчальна ня вызваліліся ад іудзейскіх і паганскіх поглядаў і калі удзел гэтакіх членаў Царквы, паводле чалавечага разуменьня, мог бы скрывіць Царкоўнае жыцьцё з праўдзівага шляху.

З другога боку ўсё гэта робіцца у Антіхійскай Царкве ў прысутнасьці яе духоўных айцоў, каторые радзілі яе ў новае духовае жыцьцё, поўных дароў

духоўных, каторые паводле натуральнага разуменьня, самі найлепшым спосабам маглі развязаць паўстаўшае пытаньне. Аднак яны знайшлі патрэбным не самім вырашыць паўстаўшы канфлікт, а перадаць яго на суд самаё Царкве, бо яны ведалі, што гэным спосабам ня толькі практычна выканаюць навуку Спасіцеля аб Царкве, як апошнім Судзьдзі, але і даюць прыклад для наступных часоў, ўсказываюць шлях каторым віннаісьці Царква у устрої ўнутраннягo яе жыцьця.

Яшчэ болей гэта думка раскрываецца Дзеяпісацелям у павестваваньні аб апостальскім саборы ў Ерусалімі, куды праз сваіх прадстаўнікоў звярнулася Антыахійская царква, як дачка да сваей маткі, для вырашэньня паўстаўшых пытаньняў. Дзеля таго, што пытаньне Антыахійскае царквы аб абавязковасьці для хрысьціян і язычнікаў абрэзаньня мела характар дагматычны і праз гэта мела вялікае прынцыповае значэньне ў практычным жыцьці, яна павінна была зацікавіць і зацікавіла ўсю Ерусалімскую царкву. Мажліва, што яшчэ да прыходу прадстаўнікоў Антыахійскае царквы, у Ерусалімскай царкве стала ведама як аб паўстаўшым пытаньні, так і аб пасланных да яе дэлегатах, бо калі яны толькі з'явіліся ў Ерусалім, дык іх спаткала ўся царква з апосталамі і прэсьвітэрамі на чале(15,4).

Брацкая сустрэча і прыватнае абсудженьня паўстаўшага пытаньня, каторае, магчыма, мела месца пры спатканьні, не толькі ня вырашыла яго, але ячшэ болей востра яго паставіла. Да прышоўшых з дэлегацыяй старроннікаў абрадавага закону прымкнулі яшчэ някія з фарысэйскай ерасі ўвераваўшыя (ст. 5) і зноў пачалі настаівацв на неабходнасьці абрадавага закону для язычнікаў. Каб пакончыць спрэчку, Апосталы парашылі аддаць развязаньня гэтага пытаньня Сабору, г. ё. самой царкве. Дзеяпісацель кажа: „Апосталы і прасвітары забраліся для разгляджэньня гэтае справы (15, ст. 6). Знаны багаслоў эпіскап Міхаіл у сваім „Талковым Апостале“, раз,ясьняючы гэты сьціх, піша: „забраліся ў асобная нарачытая сабраньня, іменна для вырашэньня гэнае справы. Дзеяпісацель успамінае толькі апосталаў і прасьвіцераў, але што там былі прастыя члены царквы, а і ўся царква была на гэтым сабраньні і пры гэтым ня толькі як слухачы а і бралі дзейны ўдзел у разгледжаньні, нарадзе і вырашэньні справы, гэта безварункова відаць з дальшага працягу павестваваньня.“ (Еп. Міх. Толк. Ап. ст. 12, 22, 23).

**Прат. Л. Голад.**

(Аканчаньне ў наступным №-ры).

# МЭМОРЫЯЛ.

(Аканьчэньне).

Яскравым прыкладам несправядлівага трактаваньня справы праваславія быў факт увядзеньня новага стылю і аўтокефаліі. Нязгодныя з падставамі сабор насьці пастановы ў гэтых пытаньнях давялі да разладу паміж іерархіей і народам і да непатрэбных, шкадлівых для дзяржавы і царквы, забурэньняў.

Ня можэм прайсьці міма і таго, што правідловаму вырашэньню справы перашкаджаюць уплывы пэўных прадстаўнікоў рэлігіі, а часьцёва тых яе элемэнтаў, якія найбольш ваража настроены проціў праваславія. Уважаем, што даказываць істнаваньне такіх уплываў будзе лішнім, бо і самі сябры ўраду безумоўна адчуваюць гэта на сабе больш чым мы, але ня можэм мінуць аднаго факту з днёў астатніх, як яркай іллюстрацыі гэтых уплываў: „Kościół narodowy“ ня можна абвінавачываць ня толькі ў браку лояльнасьці, але і шчырага патрыотызму, а тым часам ен ня быў да астатніх часоў прызнаны ўрадам толькі дзякуючы ўплывам гэтых элемэнтаў.

Паўтараецца век XVIII, калі дзеля барацьбы рэлігійнай і забязпячаньня яе посьпеха прынесены быў як ахвяра палітычны лёс Польшчы і гэта яшчэ раз служа доказам таго, што гэта палітыка павінна быць зьменена ў самым карні.

Ніжэй пералічаныя падставы ёсьць, паводле нашага переконаньня, адзінымі правамоцнымі падставамі для вырашэньня царкоўнай справы, прыняцьцё якіх будзе карысным, для царквы і для Дзярвы.

1. Народ праваслаўны ўважяе за неабходнае, як найхутчэйшае скліканьне Ўсепольскага Праваслаўнага Сабору на падставе статуту выпрацаванага на Ўсерасейскім Саборы ў Маскве ў 1917-18 г.г.

2. Народ праваслаўны ня будзе вораждна адносіцца да Аўтокефаліі Праваслаўнай Царквы ў Польшчы, калі толькі яна будзе абапёрта на царкоўных канонах і прызнана на вышэй указаным саборы (Усепольскім).

3. Той самы Сабор мае выпрацаваць будучы ўнутраны строй праваслаўнай царквы, а таксама і акрэсьліць на падставах паразуменьня з дзяржавай адносіны паміж царквой і дзяржавай.

4. Да часу склікаьня вышэй названага Ўсеп. 1-га Сабору, чынным правам (дѣйствующим каноном), акрэсьляючым унутранае жыцьцё царквы, будуць статуты аб упраўленьнях мітрапалічых, эпархіальных і парахвіяльных („прпходской устав"), апрацаваныя на тым самым саборы ў Маскве.

УВАГА. На паседжаньнях гэтага сабору і ў апрацаваньні Уставаў прымалі ўдзел і прадстаўнікі тых эпархіяў, якія цяпер увайшлі ў граніцы Польшчы, дзеля таго пастанова Сабору абавязывае канавічна („kanon czynny"—„дѣйствующее право") і праваслаўную царкву ў Польшчы.

5. Вышэйшая духоўная ўлада ў Польшчы павінна быць выбраная.

6. Народ праваслаўны ў Польшчы прызнае прынцыпова неўмяшательства дзяржавы ўва ўнутрэньнія справы царквы, ані царквы ўва ўнутрэнія справы дзяржавы на падставах, паказаных у Конституцыі Польскай Рэспублікі.

7. Царкоўная маемасьць павінна стаць прыватнай ўласнасьцьцю царквы.

8. Духоўная сэмінарыя і прыгатаваўчыя да яе школы павінны быць кіраваны праз царкву. Выкладовай мовай у іх павінна быць родная мова. Расейская мова павінна быць выкладана ў шырокіх межах дзеля яе значэньня ў праваслаўным Багаслоўю.

УВАГА Гэтая рэформа сэмінарыі павінна быць уведзена ў жыцьцё якнайхутчэй яшчэ да склікаьня Сабору.

9. Урад павінен як найхутчэй, яшчэ перад склікаьнем Сабору, дазволіць адкрыцьцё і дзейнасьць братстваў, адраджэньня прыхадзкіх Радаў і склікаьня поўных эпархіальных сабраньняў (з'ездаў) згодна з пастановамі Маскоўскага Царкоўнага Сабору.

(—) (Подпісы сяброў камісыі).

# Чарговая неадложная палітычная справа.

(Ліст да Рэдакцыі).

Пан Васілевіч у папярэднім нумары „Праваслаўнай Беларусі" закрануў вельмі важнае пытаньне (гл. стацьцю „Беларускія палітычныя групы"), якое ўжо даўно выяўляецца самім жыцьцём і стаіць перад вачыма многіх палітычных дзеячоў і грамадзян сярод беларускіх праваслаўных кругоў. Патрэбнасьць палітычнай арганізацыі гэтых кругоў выклікаецца рознымі прычынамі: і царкоўнымі, і палітычнымі і культурнымі.

Пачнем с першых.

Ня можа быць двух розных думак аб тым, што наша царкоўнае жыцьцё стаіць зусім на ненармальнай дарозе. Наша афіцыяльная вышэйшая царкоўная ўлада замест таго, каб у справах царкоўных ісьці разам з народам, замест таго, каб арганізаваць царкоўнае

жыцьцё, пачынаючы з ніжэйшых яго слаеў,— з прыходаў, заняліся больш заўсё арганізацыяй свайго асабістага дабрабыту. У справрх царкоўных яны зусім ня лічуцпа ані з патрэбамі, ані з імкненьнямі народу. Усе найважнейшыя царкоўныя пытаньні: аб аутакефаліі, аб новым календары, аб рэдукцыі, прыходаў, аб назначэньні духавенства, - усё гэта разважываецца і рашаецца царкоўнай уладай без народу. Народ гэта узнае толькі па розным указам, урачыстым аглашэньням, сьвяткаыаньням і г. д. Такім чынам яна зусім адарвалася ад народа. Аднэй сувязью з народам асталося, здаецца, толькі збіраньне царкоўных падаткаў. З ніжэйшага духавенства замест ідэйнай службы народу зрабілі толькі зборшчыкаў царкоўных падаткаў, чым зьнішчылі яго аўторытэт і таксама адарвалі ад народу. Царква, разумеецца, дужа многа траціць на гэтым і матэрыяльна і духоўна. Выхад з гэтага адзін: праваслаўнаму народу трэба арганізавацца самаму, пачынаючы з нізоў і самаму узяцца за абарону і правоў, і кананічнай чыстасьці праваслаўнай царквы. Гісторыя ведае цэлыя перыады ў жыцьцю беларускага народу, калі ён на сваіх плячах вынасіў і сваю веру, і сваю нацыянальнасьць, і праўнае існаваньне праваслаўнае царквы. Такі, здаецца, час наступіў і у нас.

Палітычныя прычыны, выключаючыя неабходнасьць арганізацыі новай партыі, так сказаць беларускага „цэнтру" карэняцца ў тым, што пакуль што у нас ёсьць партыі толькі сацыялістычных поглядаў. Тым, хто па сваім пераконаньням не належыць да іх, запраўды ў палітычным сэнсе некуды дзевацца. У свае беларускія партыі ён ня можа ісьці па сваім пераконаньням; ісьці-ж у якія групы польскія, ці расейскія перашкаджае нацыянальная сьведамасьць. Ісьці-ж да партыі беларускай хадэцыі перашкаджаюць векавыя традыцыі і нейкі асобны культурны кірунак, які гэта добра высьветліў п. Васілевіч.

Адным словам усё гэта бязумоўна творыць неабходнай справу арганізацыі новай палітычнай арганізацыі. Не за гарамі ўжо і новыя выбары у Сойм і Санат. Нам вядома, што у папярэдніх выбарах бязумоўна галоўную роль адыгралі масы беларускага праваслаўнага народу. Калі гэта ўдалося без усякай арганізацыі, то пры пэўнай палітычнай арганізацыі гэта роль павінна выявіцца яшчэ больш.

**Праваслаўны Грамадзянін.**

**Ад Рэдакцыі:** Зьмяшчаючы гэты ліст, як адзін з водгукаў на стацьцю Васілевіча, рэдакцыя паведамляе, што ў Вільні ўжо арганізуецца падобная беларуская группа. Выпрацавана ўжо праграма і статут. Праграма будзе апублікована ў наступным нумары.

# Учым прычына.

(Ліст да Рэдакцыі).

Паяўленьне першага нумару часопісі „Праваслайная Беларусь" выклікала сярод беларускай праваслаўнай інтэлігенцыі на вёсцы вялікае зацікаўленьне. Такая беларуская часопісь царкоўна-грамадзкага напрамку ўжо аддаўна была патрэбнай і пажаданай для праваслаўнай інтэлігенцыі і духавенства.

Кожны сьвядомы беларус, будзь то каталік ці праваслаўны, але каторы шчыра жадае свайму народу сьвятлейшае будучыні і за яе змагаецца, павінен прызнаць, што да гэтага часу праваслаўная царква калі ня была зусім пасыўнай у беларускім нацыянальным руху, то ў большай меры аднасілася да гэтага руху воража. Пагэтаму першым заданьнем праваслаўнай беларускай інтэлігенцыі і праваслаўнага беларускага духавенства, калі такое знойдзецца, ёсьць беларусізацыя праваслаўнай цар-

квы на Беларусі. Гэтае заданьне сёньня ў беларускім нацыянальным руху мае першарадную вагу.

Трэба прызнацца, што беларусы каталікі ў гэтай справе аказаліся далёка энэргічнейшымі за нас праваслаўных, дзякуючы чаму, яны ўжо маюць некалькі сваіх чыста беларускіх парахвіяў і больш дзесятка ксяндзоў сьвядомых барацьбітоў за ўсю Беларусь, так праваслаўнаю, як і каталіцкаю. А чым-жа мы праваслаўные можам пахваліцца? І хто-ж у гэтым вінават, калі ня мы самі? Але-ж час, ужо вялікі час і нам апомніцца і ўзяцца за працу, каб хоць крыху паправіць свае памылкі.

Сёньня тут я маю на думцы, згодна з пажаданьнем рэдакцыі „Праваслаўная Беларусь“ № 1, у звязку з стацьцёй грам. В. Васілевіча пад тытулам „Беларускія палітычныя групы“, у якой пав. аўтар, даказваючы немагчымасьць злучэньня беларусаў каталікоў і праваслаўных у адну палітычнаю партыю Б. Х. Д. і патрэбу зарганізаваньня другой такой-жа партыі, браў за аргумэнты нейкія „псыхолёгічныя перашкоды“ двух асобных „культура-гістарычных тыпаў“ беларуса каталіка і праваслаўнага, парушыць другія прычыны непаразуменьня баларуса каталіка з праваслаўным.

Бадай што ня трэба даказваць, якім шкадлівым у жыцьці Беларускага Народу з'яўляецца рэлігійны падзел на каталікоў і праваслаўных. Аб гэтым добра ведаюць як адны так і другія.

Аднак Беларусы, каталікі як і праваслаўныя, ня могуць браць на сябе адказнасьці за гэты падзел дзеля таго, што ён ня ёсьць вынікам ні волі Беларускага Народу, ні яго ідэалёгі, Прычынай гэтага падзелу, як кожнаму вядома, была ўзаемная барацьба двух рэлігійных цэнтраў і Рыму і Візантыі. І трэба было так стацца, што Беларусь як раз аказалася „полем бітвы“ гэтых двух барацьбітоў—Усходу і Заходу! І німа нікога дзіўнага, што Беларускі Народ, апынуўшыся між гэтымі двумя ўзаемна змагаючыміся сіламі, ня мог быць „кітайскім мурам“ між імі, ды аказаўся якраз мастом, збудаваным гісторыяй з каталіцкага і праваслаўнага матэр'ялу. Але на жаль ні водзін з гэтых двух рэлігіўных конкурэнтаў шчыра ня ступіў на гэты „мост“ дзеля паданьня рукі згоды і братства, але наадварот, кожны з іх і да сёньняшняга дня прадаўжае барацьбу, сеючы такім парадкам нязгоды між беларусамі каталікамі і праваслаўнымі. І вось у гэтай барацьбе Усходу з Заходам якраз аказаліся ім памоцнікамі нашые праваслаўныя пастыры, каторыя яшчэ не перасталі лятуцець аб „единай н дѣлимой“, і так сама ня менш наіўныя фанатыкі польскія ксяндзы, блузнячыя ў касьцельных амбонах на Беларусі аб нейкім „mocarstwie polskim od morza domorza“.

Дык вось у чым галоўная прычына нязгоды між беларусамі каталікамі і праваслаўнымі. Не ў лаціньцы, якой друкуецца „Б. Крыніца“, не ў псіхолёгічных перашкодах, а ў варажасьці да ўсяго, што толькі беларускае, сучаснага праваслаўнага і каталіцкага клеру, пад уплывам якіх яшчэ знаходзіцца несьвядомая беларуская маса.

Арганізацыя з праваслаўных беларусаў другой палітычнай партыі ідэнтычнай па ідэалёгіі і праграме з Б.Х.Д. тут нічога не паможа, а хутчэй прычыніцца да паглыбленьня істнуючага і так ужо досыць значнага антаянізму між беларусамі праваслаўнымі і каталікамі. Не дзяліць сёньня трэба гэтыя групы, а консалідаваць у адно цэлае, бо ў гэтым будзе залог нашага нацыянальнага вызваленьня.

Здаецца, што ўжо пара ўсім беларусам сьмела глянуць тэй праўдзе ў вочы, хоць нямілай, якая пануе ў праваслаўнай царкве і каталіцкім касьцёле на Беларусі. Хіба ня будзе сёньня не для кога з беларусаў „заморскай“ навінай, што першым нашым абавязкам ёсьць пастаноўка на парадак дня, як я ўжо ўспамінаў, справу беларусізацыі царквы і касьцёла.

Мы поўныя веры, што гэта раней ці пазьней зробім, і чым раней мы гэта зробім тым лепш для нас будзе.

**Я. Красоўскі.**

8 кастрычніка 1927 г.

**Ад Рэдакцыі:** Зьмяшчаючы гэты артыкул, як адзін з водгукаў на стацьцю Васілевіча, рэдакцыя ня можа згадзіцца зусім з яе вывадамі і пазастаўляе за сабою права зьвярнуцца да ацэнкі яе поглядаў.

# Крызыс парлямэнтарызму ў Польшчы.

Пытаньне аб адносінах паміж уладай законадаўчай (Сойм і Сэнат) і ўрадам, як яны зложыліся ў апошнія часы, ёсьць адно з самых трудных для развязаньня. Чым закончыцца паўстаўшы паміж Соймам і Урадам канфлікт, трудна напярод адгадаць. Адно толькі можна сказаць, што цяпер Урад не дапусьціць да таго, каб Сойм у сучасным сваім складзе ўзяў верх і зьвярнуў сабе тыя правы, якія ён дабравольна ўступіў у сваім часе ураду.

Ненармальнасьць адносінаў паміж Урадам і Соймам распачалася адразу па маёвым пераварoце.

У самы крытычны мамэнт пераваpoту Сойм і Сэнат ня прымалі чыннага ўдзелу з жаднага боку. Яны занялі пазыцыю выжыдаўчую. Барацьба ішла паміма іх. Перамог марш. Пілсудскі і ўлада апынулася ў яго руках.

Паўстала канкрэтнае пытаньне аб адносінах паміж фактычным гаспадаром палажэньна і ўладай законадаўчай.

Адразу па пераварoце ўсе былі пераконаны, што Маршал Пілсудскі, узяўшы ўладу за памочай палітычнага пераваpоту, развяжа Сойм і Сэнат, каторыя не мелі сілы наладзіць палітычнага і эканамічнага жыцьця ў Польшчы. Пасьля прамовы мар. Пілсудскага да прадстаўнікоў польскіх палітычных партыяў, у якой ён закідаў ім іх нездольнасьць да кіраваньня дзяржаўным жыцьцём Польшчы, — гэта перакананьне аб роспуску яшчэ балей ўзмацнела.

З другога боку і самая палітычная сытуацыя вымагала гэты крок.

Пераварoт маршала Пілсудскага выззваў сярод дэмакратычных кругоў вялікае задаваленьне.

Усім памятна, які ўплыў у той час здабыла сабе польская сацыялістычная партыя, так званая PPS, каторую ідэова падтрымоўваў мар. Пілсудскі і на каторую абапіраўся ў сваёй дзеяльнасьці. Гэта палітычная гарачка захапіла тады нават і „крэсы“. Нацыянальныя меньшасьці запамяталі сваі нацыянальныя абіды, веручы, што настаў час, калі „вольны з вольным, роўны з роўным“ распачнуць будову свайго палітычнага і нацыянальнага жыцьця. Партыя PPS расла, як грыбы пасьля дажджу і ўбіралі ў сябе шмат беларускіх сілаў. Здавалася, што ўсе нацыянальныя меньшасьцовыя партыі стра[ц]ілі свой уплыў на народныя масы.

Пры гэтакай сытуацыі лёгка была пры выбарах у С[о]йм абяспечыць сябе перамогу. І аднак мар. Пілсудскі на гэты крок не адважыўся. Не адважыўся і сам Сойм развязаць сябе. Наадварот, абыдве стораны згадзіліся на супольную працу. Але ўжо і тагды была відна, што парушаны нармальныя адносіны паміж Урадам і Соймам. Урад дыхтаваў, а Сойм толькі санкцыяніраваў (стверджаў) прапазыцыі ураду. Фактычна ўся ўлада апынулася ў руках ураду. Сойм сваімі пастановамі юрыдычна затвердзіў гэтае становішча, зьменіўшы канстытуцыю на карысьць ураду і надаўшы п. Прэзыдэнту ў часы соймавых вакацый ад свайго імені выдаваць дэкрэты з сілай законаў і адмовіўшысь ад права самароспуску на карысьць Ураду. Гэтым Сойм сам сабе падпісаў сьмертны прыгавар.

Але гэты мядовый месяц адносінаў паміж С[о]ймам і Урадам цягнуўся недоўга.

У самым Сойме каторы ў сваёй большасьці скл[а]даецца з правіцовых партыяў, крылася мажлівасьць для Ураду вострай апазіцыі. З другога боку, прадстаўнікі беларусаў, украінцаў і другіх меньшасьцяў ня мелі жаднае падставы да зьм[е]ны сваіх адносінаў да новага ўраду. Яны скептычна глядзелі на ўсе гютыя „маральныя санацыі“, былі пераконаны, што гэты пераварoт для меньшасьцяў жаднае карысьці ня прынясе. Гэты іх пагляд падтвердзіла і самае жыцьцё. Ніякага залатога веку для меньшасьцяў не настала. Законы аб школах з роднай мовай выкладаньня і надалей пазаставаліся толькі на паперы. Царкоўнае жыцьцё так сама не адчула жаднай „вольнасьці“, — карацей, — у адносінах ураду да меньшасьцяў усё пашло старым шляхам.

Гэта хутка зразумелі меньшасьцявыя масы і пачалі такжа хутка, калі ня хутчэй, пакідаць рады PPS-аў, як яны да іх і ўваходзілі. Яны яшчэ атрымалі адну лекцыю, што ў будаваньні свайго нацыянальнага жыцьця не памогуць ім ні правыя, ні левыя польскія партыі, — і сваім выхадам з польскіх партыяў маральна падтрымалі сваіх прадстаўнікоў у Сойме.

З другой стараны пасьля Нясвіжскае нарады мар. Пілсудскага з польскімі правіцовымі магнатамі і PPS-ы ня маглі адкрыта падтрымліваць ураду і перашлі да апазыцыі.

Злажылася сытуацыя некарысная для ўраду. Але ўрад у барацьбе з Соймам меў у сваіх руках пэўнае аружа— гэта права адкладу сэсыі. Калі толькі ўставала ў Сойме ня карыснае з пункту гледжаньня ураду для яго пытаньне, дык ён заўсёды прытуляўся да гэтага свайго права.

Сойм пасьля кожнага такога адкладу, усе балей і балей траціў свой аўтарытэт і пашану ў вачах народу. У канцы гэта ён зразумеў і сам і ў апошні час рашыў падняць свой аўтарытэт і перш наперш вярнуць сабе правы самараспусту. Але ужо была поздна. Урад закрыў сэсію Сойму. А калі Сойм, карыстаючы з свайго права, падаў заяву аб скліканьні надзвычайнае сэсыі Сойму і Сэнату, урад хацяі зклікаў, але адразу і адлажыў за гэтае, што Сойм адкланіў прэсавы дэкрэт, які, як разʼясніў ўрад, не страціў сваей сілы. Законадаўчая ўлада яшче раз маральна была урадам пераможана. Цяпер зноў зьбліжаецца тэрмін працы Сойму і Сэнату. Паняволі ўстае пытаньне, як скончыцца канфлікт заканадаўчай улады з урадам. Магчымы тры выхады. Першы і найкарыснейшы з маральнаца пункту гледжаньня для Сойму—гэта калі ён пазастанецца на старай пазыцыі і гэтым змусіць урад да яго роспуску;

Другі, калі Сойм прымецца да разгледжаньня дзяржаўнага буджэту. Але і ў гэтым выпадку, могуць паўстаць спрэчкі паміж Соймам і Урадам, якія змусяць урад да роспуску Сойму;

Трэці выхад — калі Сойм падпарадкуецца волі ураду і зрачэцца ад апазыцыі і будзе існаваць да канца свайго тэрміну. Але гэты апошні выхад будзе азначаць поўны крах парламэнтарызму і яго палітычную маральную бязцэннасьць. **Г. Л.**

# Праваслаўная царква ў Ковенскай Літве.

На абшары Ковенскай Літвы лічыцца каля 30.000 праваслаўных жыхароў. На гэту лічбу там маецца 25 праваслаўных парафіяў (прыходаў). Гэтай лічбы колькасьць парафіяў дасягнула толькі нядаўна, за астатнія гады. С пачатку, пасьля адраджэньня Літвы, іх лічылася толькі 10. Гэтыя дзесяць, адразу прынятыя літоўскім соймам і ўрадам як штатныя (этатовыя), лічуцца такімі і дагэтуль. На гэтыя 10 парафіяў, а таксама на утрыманьня Эпархіяльнага Архіерэя і пры ім—Літоўскага Эпархіяльнага Савету,—адпускаецца ўрадам пэўная сума грошаў у поўная распараджэньне архіерэя і Эпархіяльнага Савету. Гэта дае магчымасьць Савету самаму, згодна з пастановаў Эпархіяльнага Зьезду, разпарадкаваць цэлую суму паміж усімі 25 парафіямі паводле іх матэрыяльнага стану.

Зямлёй абязпечаны далёка ня ўсі прыходы, таксама далёка ня ўсі прыходы маюць свае будынкі для духавенства. Ёсьць і там многа атабраных, як і ў Польшчы у першыя часы пасьля адраджэньня Літвы царкоўных будынкаў. Між іншым адабраны Ковенскі праваслаўны былы ваенны сабор і знамяніты старынны правалаўны Сурдзегскі манастыр. Але патроху некатарыя сьвятыні зварачываюць назад праваслаўным.

Аб Сурдзегскім манастыры таксама ідзе юрыдычная справа і ёсьць надзея, што ён будзе аддадзены праваслаўным.

У самай Коўне у руках праваслаўных асталіся дзьве царквы: Кладбішчанская і Зеленагорская. Пры кладбішчанскай ёсьць прыходскі дом, у якім памешчаюцца прычты абедзвюх парафіяў і жывець сам ўладыка Елеўферый. Займае ён толькі адзін пакойчык, але на гэта не жаліцца і нават з сваей скарбовай пэнсіі адлічае значную долю на падтрыманьне бяднейшых парафіяў.

Адносіны Ўлады да праваслаўнае царквы і да архіепіскопа Елеўферыя досаць добрыя і прыхільныя. Ніякага уціску, скіраванага спецыяльна на праваслаўную царкву з боку ўлады не адчуваецца. Не адчуваецца і якога нібудзь умешацельства ува ўнутранняе жыцьцё царквы. Быў пэўны момэнт, калі літоўскі ўрад, пад уплывам ковенскіх каталіцкіх кругоў зажадаў ад архіепіскапа Елеўферыя аглашэньня аўтакефаліі Літоўскай царквы. Арх. Елеўферы прэдставіў аб гэтым свой рэфэрат міністру, ў якім выясніў кананічныя перашкоды да стварэньня аўтакефаліі. У часе вуснага даклада міністр запытаўся у Владыкі:

— Але-ж вам аўтакефалія патрэбна?

— Не!

— Не патрэбна? Ну, дык і нам не патрэбна.

Гэтым справа аўтокефаліі праваслаўнай царквы ў Літве і скончылася.

Справы новага календара, ці, як гаверыцца, новага стылю, і зусім ня было.

Усе праваслаўныя на Літве трымаюцца старага стылю.

Такое, у кароткіх словах, наружнае становішча праваслаўнае царквы у Ковенскай Літве.

Галоўная-ж ў тым, як удалося мне чытаць у пісьмах некатарых прадстаўнікоў тамашняга духавенства,—галоўная у тым, што ні мы самі, ні хто другі ня можа сумлевацца адносна да кананічнасці нас і нашага Ўладыкі.

Пішучаму гэтую заметку нынешнім летам здарылася некалькі дзён прабыць у Латвіі. У гэтыя часы архіепіскап Елеўф ры гасьціў у Латвіі і лячыўся серкавымі ваннамі у Кэммерне каля самага узморра. Мне удалося бачыць Ўладыку і прагасьціць у яго тры дні. Уладыка троху пастарэў з віду, але бодры духам і поўны веры. Сваю паству на Віленшчыне не забывае. За ўсіх моліцца за жывых. Прасіў паведамляць яго і аб памёршых, каб маліцца і за іх.

**В. Багдановіч.**

# ЦАРКОЎНАЯ ХРОНІКА.

## Праваслаўная царква ў С. С. С. Р. і Савецкая Улада.

У астатніі часы ўсе загранічныя часткі праваслаўнай Усерасейскай царквы дужа ўстрывожала выданая праз м. Сергія, які замешчае патрыаршы прэстол, „Обращэніе“ да праваслаўнага (тіханаўскага) духавенства і вер ых чадаў праваслаўнай царквы, у якім ён, з поваду пазваленьня, выданнага савецкай уладай на арганізацыю цэнтральнага ўпраўленьня праваслаўнай царквы *), зварачываецца да гэтай царквы з просьбай быць лёяльнай у адносінах да ўлады і сам выражае гэту лёяльнасьць нават у такой досіць прыхільнай форме: „Мы хотим быть православнымі і в тоже время сознавать Совѣтскій Союз нашей гражданской родной, радости и успѣхи которой—наши радости, а неудачи—наши неудачи“.

Яшчэ больш трывогі выклікала тое, што м. Сергій абецае сав. уладзе ўзяць падпіску у загранічнага духавенства аб лёяльнасьці да гэтай улады. З вымаганьнем да гэтай падпіскі ён ужо пры асобным лісьце зьвярнуўвя да мітрапаліта Зап. Эўропы Еўлогія. М. Еўлогі адказаў,

*) Дагэтуль бальшавікі дазвалялі мець цэнтральную ўладу толькі так званым „жывацаркоўнікам“ і „абнаўленцам“.

што ён даўно стаіць на становішчы поўнага неўмяшацельсква царквы ў справы палітыкі, дзеля чаго ён ня можа ні сам даць такой падпіскі, ні ад другіх узяць. Але прыймаючы пад увагу цяжкое палажэньня царквы ў СССР., ён можа толькі абяцаць ня ўжываньня царкоўнага амвона для палітыкі і нагул адхіленьня царквы ад палітычнай працы. Калі гэта м жа задаволіць м. Сергія, ён просіць аставіць іх у лоне ўсера ійскай царквы; калі—не, благаславіць іх арганізавацца ў аўтаномную ца кву. Адказу ад м. Сергія пакуль, няма

# Палітычная хроніка.

— **Аб роспуску Сойму.** „Экспрэс Паранны" паведамляе, что Сойм будзе распушчаны 30-га лістапада.

Новыя выбары згодна з Канстытуцыяй адбудуцца ў працягу 90 дзён.

Магчыма яны адбудуцца 25 лютага 1928 году.

Склікаиьне новага Сойму павінна адбыцца ў трэці аўторак пасьля выбараў, г. ё. 19.III 1928 году.

— **Арышты Літвіноў.** У ночы з 4-га на 5-га кастрычніка між 1-ай а 3-цяй гадзінай, у Вільні і ў Віленшчыне адбыліся рэвізіі сярод усіх палітычных і грамадзкіх літоўскіх дзеячоў. Мундуровая паліцыя разам з цывільнай (сышчыкамі) зрабілі павальныя рэвізіі і ня глядзячы на непажаданыя для сябе вынікі рэвізіяў, шмат Літвіноў арыштавалі і пасадзілі ў вастрог на Лукішкі.

Арышты Літвіноў носяць выключна палітычны характар і відаць маюць на мэце змусіць Літву лічыцца з Польшчаю. Польскія газэты не падаюць канкрэтнай віны арыштаваных, а проста лічуць іх толькі „антыпанствоўцамі".

Па загаду ўраду марш. Пілсудскага дня 5-га кастрычніка на абшары Віленскага ваяводства польскія ўлады зачынілі: Літоўскую Вучыцельскую Сэмінарыю ў Вільні і 48 літоўскіх прыватных школ утрымліваных Асьветным Таварыствам „Rytas", а іменна: на абшары Віленска-Троцкага пав. 25 школ, на абшары Сьвенцянскага пав. — 5 школ і на абшары Лідскага пав. — 18 школ.

— **Польска-літоўскія спрэчкі за Вільно.** Як даносяць польскія газэты, літоўскі ўрад праектуе зьмяніць канстытуцыю і ўставіць да яе дадатковы артыкул 4-а, які пастанаўляе, што сталіцай Літоўскай рэспублікі ёсьць Вільня.

З Коўна даносяць: Рэфэрэндум (галасаваньне грамадзян) у справе зьмены канстытуцыі, якая мелася адбыцца дня 10 кастрычніка, — адложана на 1 месяц, г. зн. на 10 лістапада, дзеля атсутнасьці прэм'ера Вальдэмараса. Агітацыя падчас рэфэрэндума будзе забаронена.

— **Важныя палітычныя нарады. Знова Віленскае пытаньне.** 9-га г. м. да Парыжу прыехалі міністры замежных спраў Англіі — Чэмбэлян і Польшчы — Залескі. Гутараць, што міністры будуць размаўляць паміж іншым аб узаімаадносінах паміж Польшчай і Літвой.

Англія зноў імкнецца да вырашэньня гэтага пытаньня такім спосабам, каб Горадня пазасталася за Польшчай, а Вільня была аддана Літве.

У дыпляматычных кругох ходзяць пагалоскі, што ў пачатку наступнай нядзелі прадстаўнікі Англіі, Францыі і Італіі выступяць для ліквідацыі польска-літоўскага канфлікту.

— **Выключэньне мін. Марачэўскага з П. П. С.** Як пішуць з Варшавы, партыйны суд П. П. С. абвясьціў сваю пастанову ад 24.IX с. г., якой выключыў інж. Андрэя Марачэўскага з партыі П. П. С. за тое, што мін. Марачэўскі ў кастрычніку прошлага году самавольна ўступіў да ўраду марш. Пілсудскага і, падтрымоўваючы дзейнасьць гэтага ўраду, зламаў партыйную дысцыпліну і зрабіў шмат шкоды інтарэсам работніцкай клясы.

Вышаў з партыі з гэтае-ж прычыны і Галуўко, начальнік усходняга аддзелу міністэрства замежных справаў і др.

— **Цікавая заява латвійскага міністра замежных спраў.** У публічнай гутарцы з заграні́чнымі журналістамі латвійскі міністар ствердзіў, што цяпер стварыліся вельмі выгадныя варункі і абставіны для рэалізацыі „ўсходняга Лёкарна", гварантуючага нятыкальнасьць істнуючых граніцаў балтыцкіх дзяржаваў, уваходзячых у ахопленаю супольнай мовай групы і гэтым адначасна гварантавала-б усіх іх і ад узаемнага нападу.

У склад гэтага Лёкарна, па думцы латвійскага міністра, ўвайшлі-б: Латвія, Эстонія, Фінляндія і магчыма — Літва. Што датычыцца Польшчы, дык яе ўчасьце ў Балтыцкім Лёкарне — з пагляду міністра — зрабіла-б вельмі трудным ня толькі да зьдзейсьненьня гэтага пляну, але нават да распачатку якіх-небудзь перагавораў паміж заінтэрасаванымі дзяржавамі, дзеля таго, што неякія дзяржавы, — як напрыклад Нямеччына, ня згаджаюцца ні за што гварантаваць сучасныя польскія граніцы, як гэта яна ўжо паказала ў першым „Заходнім Лёкарно".

— **Новы савецкі пасол у Польшчы.** 3 кастрычніка прыехаў у Стоўпцы новы савецкі пасол у Варшаве Багамолаў з сэкратаром пасольства Пагодзіным.

Пасол быў сустрэнуты старастай Курачыцкім і камісарам Генріхам. Пасол ад'ехаў у Варшаву, а 4-га Багамолаў быў прыняты міністрам замежных спраў. Сваі верыцяльныя граматы Багамолаў даручыць Прэзыдэнту Рэспублікі ў бліжэйшыя дні па павароце асгатняга да Варшавы.

— **Выключэньне Троцкага з партыі.** Польскія газэты падаюць, што маскоўскія газэты даносяць, што ўрад выканаўчага камітэгу камуністычнага інтэрнацыяналу і ўрад цэнтральнай кантрольнай камісіі выдалі камунікат аб выключэньні Вуевіча з лічбы сяброў і Троцкага з лічбы кандыдатаў выканаўчага камітэту.

Камунікак між іншым піша: „Ня гледзячы на прынятыя на сябе ў м-цы жніўні абавязаньні, апазыцыя сілілася стварыць уласную арганізацыйную цэнтралю, што азначае спробу стварэньня навай партыі Троцкага. Адначасна апазыцыя старалася пашырыць лучнасьць з усялякімі групамі выключанымі з камуністычнага інтэрнацыяналу ў Нямеччыне і ў Францыі. На паседжаньні прэзыдыуму камуністычнага інтэрнацыяналу 24 верасьня Троцкі заявіў, што партыйная дысцыпліна яго ня вяжа і выступіў у абароне Сэрэбракова, Прэабражэнскага і Шарова, каторыя, як самі прызналіся, — былі арганізатарамі тайнай друкарні, варожай камуністычнай партыі. Справа гэта выкрылася на гэтых днях. Камунікаг падкрэсьлівае, што ўсе перасьцярогі, зьвернутыя ў кірунку апазыцыі — ужо вычэрпаліся.

— **У Нямеччыне.** У недзелю 2-га кастрычніка прэзыдэнту Гінденбургу скончылася 80 гадоў. З гэтага поваду ў всей Германіі была заграні́завана чэствованьне Гінденбурга, каторае ў сваёй істоце была палітычнай дэманстрацыяй манархічных групаў. Гінденбург атрымаў 200.000 тэлеграмаў.

— **Забойства сэрбскага генэрала баўгарскімі камітаджамі.** У Іштіну забіты ген Кавачэвіч баўгарскімі камітаджамі.

— **У Кітаі.** З Пекіна паведамляюць, што Чанг-Тсо-Лін разбіў на галаву палудзенную армію, каторая да гэтае пары з бліжалася да Пекіну і пагражала яму небяспекай.

Пабеда Чанг-Тсо-Ліна ізнова грунтова зьмяніла палажэньне ў Кітаі.

— **Польска-літоўскія адносіны.** „Kurjer Poranny" піша, што на важнай нарадзе, каторая адбылася ў Вільні, былі парушаны пытаньня аб польска-літоўскіх адносінах. Як чуваць, у віду ведамасьцяў, атрыманых з Коўны, Пілсудскі распарадзіўся прыпыніць рэпрэсыі у адносінах літоўскіх палітычных дзеячоў.

— **Арэшт А. Луцкевіча.** 12-га г. м. днём заарэштавалі знанага палітычнага беларускага дзеяча Антона Луцкевіча у сувязі са справай „Грамады". Арэшт выкананы з распараджэньня пракурора. Луцкевіч памешчаны у Лукішскую турму.

„Kurjer Wileński" цьвердзіць, што нібы-то арэшт Луцкевіча выкананы ў сувязі з паказаньнямі Тарашкевіча, Астроўскага і інш.

**Папраўка.** У № 1-м „Прав. Бел." у артыкуле „Беларуская народная асьвета у Латвіі" амылкова паказаны кіраўніком Белар. Аддзела пры Мін. Асьветы гр. К. Езавітаў. У запраўды на чале яго стаіць гр. В. В. Пігулеўскі.

(глядзі 2-ю стар.)

## ЗЬМЕСТ.




Рэдактар-выдавец: Л. Голад. Друк. ім. Ф. Скарыны, Людвісарская 1.